Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 16 верасьня 1933.

# РОДНЫ КРАЙ

№ 19.

Год 1-шы

выходзіць двойчы ў месяц.

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

Цана асобнага нумару 20 гр.

## Тарашкевіч і Аляхновіч на волі.

У сумных, шэрых буднях нашага нацыянальнага жыцьця нейкім ясным праменем сонейка паказалася вестка, для беларускага грамадзянства бадай зусім неспадзяваная. У выніку паразуменьня між польскім і савецкім урадамі 6 верасьня на граніцы паміж Польшчай і БССР адбылася замена палітычных вязьняў: Польшча звольніла з вастрогу і пусьціла ў Саветы выдатнага беларускага грамадзкага дзеяча і навукоўца Браніслава Тарашкевіча; Саветы ўзамен за яго звольнілі з вастрогу і пусьцілі ў Польшчу выдатнага беларускага драматурга і драматычнага артысту Францішка Аляхновіча. Пад той час, як беларускае грамадзянства шчыра вітае ў мурох старое Вільні вернага сына яе Аляхновіча, такое-ж сьвята спраўляе беларускі Менск, вітаючы Тарашкевіча.



Бр. Тарашкевіч.



Фр. Аляхновіч.

Дзелючыся з нашымі чытачамі гэтай радаснай весткай аб павароце з вастрожных муроў да вольнага жыцьця дзьвюх такіх цэнных культурных сілаў беларускіх, мы лічым сваім абавязкам адзначыць запраўды-ж шляхотны і палітычна мудры крок польскіх уладаў, якія за беларуса патрабавалі ад Саветаў беларуса-ж. Каб-жа гэты крок выклікаў і далейшыя крокі з боку Польшчы ў кірунку ўнармаваньня адносінаў да беларусаў і стварэньня неабходных дзеля разьвіцьця нашае нацыянальнае культуры і гаспадарчага дабрабыту варункаў жыцьця!

Культурнікаў нашых вітаем на волі!

# Трагедыя школы 33.

Так яно неяк ужо ўвайшло ў нашае нацыянальнае жыцьцё, што кожную восень чакаем нейкага цяжкога ўдару па нашым культурным „stanie posiadania“. І сёлетняя восень асталася вернай гэтай сумнай традыцыі.

Рэформа школьніцтва паставіла беларускія гімназіі, якія існуюць ужо толькі ў лічбе дзьвюх і то не самастойна, а як філіі польскіх дзяржаўных гімназіяў, у вельмі цяжкое палажэньне. Як ведама, існаваньне польскіх гімназіяў забясьпечана сталым штогоднім прытокам новых вучняў, якія канчаюць 6 аддзелаў польскае „повшэхнае“ школы. Гэткіх „повшэхных“ школ з польскай выкладовай мовай ёсьць гэтулькі, што кандыдатаў у польскія гімназіі заўсёды будзе паддастаткам. Інакш стаіць справа з беларускімі гімназіямі, якія гэткае „падмуроўкі“ зусім пазбаўлены. Беларускіх пачатковых школ усё-роўна як няма, а тыя, якія носяць назоў „беларускіх“ або „польска-беларускіх“, зьяўляюцца няпоўнымі і ня могуць падгатаўляць дзяцей да паступленьня ў зрэформаваныя гімназіі наагул. Значыць, прыток вучняў у беларускія гімназіі можа адбывацца толькі спасярод тых дзяцей, якія ці то самі здолеюць падгатавацца да гэтага у хаце, ці скончылі 6 аддзелаў польскае народнае школы. Але-ж і адно і другое—рэч нялёгкая: у хаце дзецям самым трудна працаваць, а прайшоўшы польскую школу ізноў-жа трудна вучыцца ў беларускай гімназіі. Дык вось і ўзьнялося сярод беларускага грамадзянства пытаньне: што-ж рабіць, каб забясьпечыць беларускім гімназіям нармальны штогодні прыток вучняў?

Першыя заварушыліся, натуральна, вучыцялі гімназіяў. Як мы чулі, вучыцялі ў Вільні пастанавілі распачаць адпаведныя крокі перад школьнымі ўладамі, каб прынамся ў Вільні існавала хоць адна беларуская народная („повшэхная“) школа поўнага тыпу, з якое дзеці маглі-б паступаць ужо ў першую клясу (даўнейшую трэцюю) зрэформаванае гімназіі. Была зьвернена ўвага на тое, што ў Вільні на паперы школа № 33 лічыцца беларускай, хаця на дзеле ў ёй усё выкладаецца папольску. І пастанавілі прасіць уладу ператварыць гэту школу ў запраўды беларускую.

На вялікі жаль, стараньні віленскага беларускага вучыцельства асталіся бяз ніякіх вынікаў... Але адначасна выявілася запраўдная трагедыя школы № 33.

Аказалася, што — ня гледзячы на існаваньне дэкрэту п. Прэзыдэнта, які забараняе зьмяняць у школах выкладовую мову ў працягу сямёх гадоў, — гэная беларуская некалі школа перароблена колькі гадоў назад у чыста польскую. Дзеля прыкрыцьця гэтае абсалютна незаконнае рэформы ўведзена было выкладаньне беларускае мовы ў надлічбовых гадзінах, як неабавязковага прадмету, але й гэта на дзеле не выпаўнялася. У вывіку такое рэформы беларускія дзеці, бадай выключна праваслаўныя, пачалі кідаць гэту „беларускую“ школу і запісывацца ў школу расейскую: бацькі хацелі, каб дзеці вучыліся закону Божага, калі ўжо ня ў роднай мове, дык парасейску, але не папольску, бо-ж царкоўнасьць і рэлігія ў праваслаўных беларусаў заўсёды хутчэй годзяцца з расейшчынай, чым з польшчынай. І вось у расейскай школе цяпер бачым цэлую грамаду беларускіх дзяцей, якія гэтак „падараваны“ расейцам, бо-ж, скончыўшы расейскую „повшэхную“ школу, яны пойдуць і ў расейскую гімназію і будуць працаваць некалі не для беларускае, а для расейскае культуры...

Як нас інфармуюць, школьныя ўлады тлумачаць сваю адмову вярнуць беларускі характар школе № 33 тым, што там сягоньня мала беларускіх дзяцей.. Ясна, што мала: незаконнае спольшчаньне школы разагнала беларусаў, якія раней хадзілі да яе часта з іншых часьцін места, ня гледзячы на тое, што было і далёка, і трудна вандраваць ажно на край места—на праваслаўныя могілкі.

Але школа № 33 усё яшчэ на паперы лічыцца „беларускай“. І калі магчыма нешта падобнае ў Вільні — сталіцы краю, дзе ўсе гэта бачаць, дык можна сабе наперад уявіць, як выглядаюць „беларускія“ ці „польска-беларускія“ школы на правінцыі.

Трагедыя школы № 33 гэтак ператвараецца ў трагедыю беларускага школьніцтва наагул. І ніякага прасьвету ніскуль няма!

# Увагі да гаспадарчага зьезду Віленшчыны.

8 і 9 IX у Вільні адбываўся з'арганізаваны Беспартыйным Блёкам Супрацоўніцтва з Урадам гаспадарчы зьезд Віленшчыны. Зьезд гэты, у мысьль прачытанага былым міністрам В. Станевічам абшырнага рэфэрату, павінен быў выясьніць спосабы змаганьня з гаспадарчым крызісам сіламі самога грамадзянства.

Бязумоўна, думка грамадзкае акцыі ў гэтай галіне — вельмі важная, і слушна дакладчык адзначаў, што нельга ўвесь час спадзявацца адно толькі на дапамогу дзяржавы ды самым нічога не рабіць. І зьезд шчыра шукаў гэтых саматужных грамадзкіх спосабаў барацьбы з гаспадарчым крызісам. Але—ці іх знайшоў?

Фармальна як-быццам знайшоў. Гаварылася аб тым, што трэба наладзіць лепшую арганізацыю збыту сельска-гаспадарчых прадуктаў, бо-ж хлебаробства ў Віленшчыне — гэта галоўная галіна гаспадарчае вытворчасьці ваяводзтва. Гаварылася і аб паляпшэньні спосабаў прадукцыі збожжа і іншых артыкулаў сельскае гаспадаркі ў кірунку зьніжэньня коштаў вытворчасьці. Аднак, рэальных карысьцяў ад двухдзёвых нарад зьезду пакуль што нельга дагледзіць. І вось чаму.

Зьезд сабраў у пераважаючай большасьці прадстаўнікоў сельскае гаспадаркі—і то бадай выключна сярэдняе і буйнае. Сялянства тут ня было. Дык і ўсе мяркаваньні удзельнікаў зьезду зусім натуральна мелі наўвеце інтарэсы абшарніцтва, імкнуліся да таго, каб вярнуць дворным гаспадаркам той дабрабыт, які ў іх быў „у старыя добрыя часы“. Адначасна ў аснову ўсіх разважаньняў на зьезьдзе быў — як-быццам з маўклівае згоды сабраўшыхся—пакладзены прынцып: захаваць сучасны „stan posiadania“ сярэдніх і буйных земляўласьнікаў, захаваць іхнія маёнткі ў сучасных іх межах. Аб тым, каб ратавацца шляхам перадачы часткі зямлі сялянству, якое—ня маючы выхаду дзеля лішніх рук—папросту душыцца на сваіх жабрацкіх гаспадарках,—гутаркі на зьезьдзе ня было. Праектаваная-ж адным з дакладчыкаў асушка балот дзеля парцэляцыі іх між сялянамі — з аднаго боку, вымагала-бы вялізарных выдаткаў, на што грошы няма, з другога-ж боку — на некаторых тарфяніштчах можна было-б сеяць збожа не раней, як праз гадоў дзесяць. Да таго-ж проці асушкі вялікшых балот маглі-б выступіць і вайсковыя ўлады з гледзішча стратэгічнага. Толькі-што апошняе здарылася з справай абніжэньня роўня вады ў Вішнеўскім возеры, каб адвадніць сялянскія сенажаці: ужо пасьля затраты значных грошы на падгатаваўчыя работы вайсковыя ўлады заявілі свой пратэст, і распачатая праца спынілася.

Праўда, прамоўцы адзначалі неабходнасьць падняцьця і прамысловасьці ў мястах. Але гэта ўжо залежыць не ад добрае волі грамадзянства, а ад тых чыньнікаў, якія выклікалі сусьветны гаспадарчы крызіс. Дый у Віленскім ваяводзтве маем, здаецца, толькі адзін прамысловы цэнтр: Вільню, у якім зацікаўлена ня толькі Віленшчына, але й суседнія ваяводзтвы, у першы чарод — Наваградзкае і Палескае,—таксама, як у іншым вялікшым прамысловым цэнтры нашага краю Беластоку—зацікаўлены ўсе ваяводзтвы Заходняе Беларусі. Аб гэтым на зьезьдзе неяк ніхто не гаварыў, хаця ўсе разважаньні на закранутую тэму зьяўляюцца аднабокімі, калі ня прыняць пад увагу прыцягаючае сілы Вільні і Беластоку для ўсяго краю.

На падставе вышэй оказанага мусім заявіць, што ініцыятыва склікаць зьездаў кшталтам толькі-што адбытага ў Вільні, сама па сабе вельмі карысная, павінна ўвясьці паважную папраўку ў гэтае шырокае грамадзкае пачынаньне. Перад усім зьезды павінны абняць нашыя сялянскія масы, бо нельга гаварыць аб падняцьці дабрабыту краю, не папраўіўшы долі гэтае асноўнае масы насяленьня. Другое — ладжаньне зьездаў ваяводзкіх там, дзе трэба прымаць пад увагу патрэбы й інтарэсы арганічнае цэласьці краю, зьяўляецца нерацыянальным і затым мала карысным. Замест асобных зьездаў Віленшчыны, Наваградчыны, Палесься, Беласточчыны—павінен быць скліканы вялікі агульнакраёвы зьезд, а зьезды ваяводзкія могуць разглядацца хіба толькі як падгатаваўчыя да гэткага краёвага гаспадарчага Сойму.

Пры закрыцьці зьезду ў Вільні старшыня яго, сэнатар Абрамовіч, адзначыў, што вынікі прац камісіяў і выказаныя на зьезьдзе думкі й пажаданьні будуць яшчэ апрацоўвацца дзеля выходу практычных мераў барацьбы з гаспадарчым крызісам. Думаем, што заява гэтая зусім слушная: на тых пажаданьнях, якія выказалі абшарнікі Віленшчыны, запраўды трудна нешта будаваць. Мусіць быць выслуханы голас і другое—шмат вялікшае часткі жыхарства вёскі дый не з аднае толькі Віленшчыны, а з усяго краю.

# Коопэрацыйныя справы.

## Новы закон аб коопэрацыі.

Польская і Украінская прэса наказуе, быццам апрацаваны Міністэрствам скарбу праект новага закону аб коопэрацыі мае ў бліжэйшым часе ўвайсьці ў сілу—у парадку дэкрэту Прэзыдэнта Рэспублікі.

Новы праект, уводзячы рад драбнейшых паляпшэньняў, раўнуючы да дзеючага цяпер закону, так грунтоўна зьмяняе асноўныя праўныя падставы коопэрацыі ў Польшчы, што проці ўвядзеньня яго ў жыцьцё выказаліся рашуча ўсе вялікія коопэрацыйныя аб'яднаньні ў Польшчы — з Коопэратыўнай Радай на чале.

Ведамы Украінскі дзеяч О. Луцькый ... ў органе Цэнтральнага Аб'яднаньня Укр...нскае Коопэрацыі („Госп.-Кооп. Часопіс“) рэчовы разгляд дадатных і ад'емных бакоў новага праекту. Дадатныя зьмены йдуць у бок паляпшэньня тэхнічнага распарадку і спраўнасьці ўладаў коопэратыву. За тое ўвесь закон выяўляе глыбокі недавер да самае ідэі коопэратыўна арганізаванае самадзейнасьці насяленьня наагул.

Законапраект дзеля гэтага мае імкненьне чым больш падпарадкаваць коопэрацыйную дзеяльнасьць насяленьня апецы надзорчае ўлады — з міністрам скарбу на чале. Можна сказаць, што з увядзеньнем новага закону ўся коопэрацыя ў Польшчы, самае яе існаваньне ставіцца ў поўную залежнасьць ад добрае волі міністра скарбу—ці то беспасрэдна, ці праз назначанага міністрам старшыню Коопэрацыйнае Рады.

Міністар скарбу (праз К. Р.) можа недазволіць адчыніць новы коопэратыў, як пасутнасьці „непатрэбны“,—тады як цяпер гэтую справу вырашае толькі чыста фармальна рэгіструючая судовая ўстанова.

Міністар скарбу (праз старш. Рады) зацьвярджае або незацьвярджае рэвізораў Рэвізыйнага Саюзу, дае або адбірае ў гэтых саюзаў права рэвізіі і наагул назначае ім тэрыторыю і межы іх дзейнасьці. Міністар скарбу можа загадаць аднаму Рэвізыйнаму Саюзу аб'яднацца, зьліцца з другім, — прыкладам: Украінскаму з Польскім... Можа і проста пазбавіць саюз права на далейшую працу...

Міністар (праз старш. К. Р.) зацьвярджае або незацьвярджае бюджэты, прынятыя Агульнымі Зборамі Рэвіз. Саюзу.

У заключэньне свайго спакойнага, рэчова об'ектыўнага артыкулу гр. О. Луцькый выражае трывогу, што новы кооперацыўны закон у гэткім відзе прынясе шмат вялікіх стратаў, дый ня толькі ўкраінскай кооперацыі, але і—польскай.

### „Найхутчэй расьце ў Польшчы ўкраінская кооперацыя"...

Той-жа часопіс—у аглядзе прэсы—прыводзіць артыкул з польскага „Кур. Львоўскага", які з трыногай сцьвярджае, што „найхутчэй у Польшчы разьвіваецца ўкраінская кооперацыя".

„За апошнія 4 гады лічба польскіх кооператываў павялічылася на 9,9%, а ўкраінскіх—аж на 35,5%: з 2.487 да 3.360. А ў апошні год лічба польскіх кооператываў зьменшылася блізу на цэлы 1%, а лічба украінскіх павялічылася блізу на 3%".

Польская газэта сцьвярджае об'ектыўна, што такі „паважны—ня гледзячы на крызіс—развой украінскіх кооператываў, звычайна не карыстаючыхся з ніякіх вонкавых дапамогаў", ёсьць вынікам „толькі падтрыманьня з боку шырокіх колаў мясцовага насяленьня".

На гэтым яркім прыкладзе асабліва ярка відаць, што добра кіраваны ў сваей працы на правільным шляху народ запраўды сам куе свой лёс, свой дабрабыт. Добры прыклад і для нашага народу, для нашага... „грамадзкага кіраўніцтва"!

## Чытайце і пашырайце нашу газэту.

## Гарады Заходняе Беларусі у лічбах.

Афіцыяльная лічба беларусаў у Польшчы, паводле перапісу з 9-га сьнежня 1931 г., дасягае аднаго мільёну шэсьцсот тысячаў душ, г. ё. 4% усяго насельніцтва Польшчы (32 міл.). Лічба гэтая далёка ня поўная. Як ведама, рабіліся ўсе магчымыя яўныя і няяўныя надужыцьці рознымі перапішчыкамі на некарысьць беларусаў. Паводле аблічэньняў беларускіх дасьледчыкаў, лічба беларусаў у межах Польшчы дасягае 2⅓ мільёнаў чалавек. Пераважную большасьць складае элемэнт вясковы, бо ажно 90 прац. Ніжэй паданы лічбы насельніцтва гарадоў у Заходняй Беларусі паводле апошняе статыстычнае справаздачы:

Вільня 196,345 жыхароў, Беласток 91,335, Горадня 49,818, Берасьце 48,435, Пінск 31,913, Баранавічы 22,848, Ліда 19,490, Слонім 16,284, Ваўкавыск 15,027, Кобрын 10,101, Навагрудак 9,567, Лунінец 8,715, Пружана 8,013, Глыбокае 7,544, Несьвіж 7,357, Ашмяна 7,334, Бельск Пад. 7,028, Новая Вялейка 6,958, Саколка 6,379, Стоўбцы 6,278, Маладэчна 5,964, Клецк 5,930, Крынкі 5,789, Вялейка 5,5951 Дзісна 4,788, Бяроза Картуз. 4,521, Смаргонь, 4,090, Скідэль 3,814, Навасьвянцяны 3,715 Ракаў 3,481, Докшыцы 3,235, Заблудаў 3,158, Трокі 2,637, Падбродзе 2,588, Радашковічы 2,574, Друскенікі 2,053, Кляшчэлі 2,029.

Сярод мястовага элемэнту найбольш рухавыя ёсьць жыды і прыезжыя ўрадоўцы — палякі. Рэшта — значна засыміляваныя расейцамі і палякамі, маласьвядомыя сваей нацыянальнасьці — беларусы. Крыніцай-жа беларускае нацыянальнае сьвядомасьці ёсьць усё-ж вёска, верная сваім адвечным традыцыям.

Мін. І.

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Кооперацыя.** На мінулым тыдні адбыўся арганізацыйны сход Акружнае Рады саюзу кооператываў „Społem". За старшыню Рады Віленскага Вокругу выбраны гр. Туркі (паляк), а заступікам старшыні гр. Р. Астроўскі (беларус).

На тым-жа паседжаньні абгаварваўся статут Рады і выбраны быў дэлегат па Варшаўскую Канфэрэнцыю. Дэлегатам у Варшаву выбраны быў гр. Р. Астроўскі.

Варшаўская Канфэрэнцыя, якая адбылася 10. IX пад старшынствам былага Прэзыдэнта праф. Войцехоўскага, дэтальна яшчэ раз разглядзела статут Акружных Радаў і канчальна яго зацьвярдзіла. Між іншым зроблена пастанова, каб Наглядная Рада „Społem" складалася з прадстаўнікоў, выбіраных на мясцох прадстаўнікамі кооператываў, а не, як было дагэтуль, кооптавалася паводле „партыйнага" ключа.

Пастанову гэтую вітаем.

**На паседжаньні Рады ТБА**, якое адбылася ў памяшчэньні ТБА 12-га верасьня, звольнены з Салавецкага вастрогу (ў Саветах) ведамы беларускі драматычны пісьменьнік і артыста Ф. Аляхновіч дзяліўся з сабранымі сваімі перажываньнямі за сем гадоў вастрожнага жыцьця. Беларускія культурнікі, вітаючы гр. Аляхновіча, выказалі пажаданьне, каб ён—пасьля сямілетняга прымусовага перарыву—ізноў узяўся за пяро і ўзнавіў працу над арганізацыяй беларускага тэатру.

У часе паседжаньня здарыўся прыкры інцыдэнт. Даведаўшыся аб маючым адбыцца дакладзе гр. Аляхновіча, на паседжаньне зьявіўся (бяз ніякіх запросінаў) „ведамы" пан Вэрнікоўскі, з якім ТБА нічога супольнага ня мае. Калі старшыня ТБА заявіў яму, што гэта сход зачынены, і староньнія асобы без запросінаў на ім быць ня могуць, п.

Вярнікоўскі выйшаў з памяшчэньня ТБА, пабег да найбліжэйшага паліцэйскага пастэрунку і „замэльдаваў“, што ў ТБА адбываецца „нелегальнае сабраньне“ — ды яшчэ „з учасьцем асоб з СССР“. Паліцыянт ураз-жа зьявіўся ў памяшчэньне ТБА і прасіў выясьненьня, што тут дзеецца. Атрымаўшы інфармацыю аб характары сходу, паліцыянт затэлефанаваў аб усей справе да сваіх уладаў, якія, відаць, аднесьліся да фальшывага мэльдунку так, як належала, і сход быў давэдзены да канца без перашкодаў.

Дзякуючы гэтаму інцыдэнту аблічча п. Вярнікоўскага, які прымае чыннае ўчасьце ў розных хадэцкіх урачыстасьцях, аканчальна выявілася...

**З выдавецкае нівы.** Таварыства Беларускае Асьветы выдала — з дапамогай вучыцельства беларускае гімназіі ў Вільні — невялікі зборнічак апавяданьняў Тараса Гушчы (Я. Коласа) п. н. „У старых дубох“, „Злучыліся“, „Дзеравеншчына“, а таксама апавяданьне Б. Жыткова „Пра малпачку“. Кніжачкі гэтыя вельмі патрэбныя для школьнае моладзі, і выхад іх трэба прывітаць. ТБА праектуе выпусьціць рад падобных кніжачак дзеля чытаньня для моладзі.

Выйшаў такжа ў асобнай адбітцы драматычны абразок **М. Машары „Вось тут і зразумей“.**

## На правінцыі.

**Патрэба лекцыяў** (в. Сьпягліца, Вішнеўскае гміны). Да нас дайшлі гуткі, што ў в. Гарэліках была прачытана студэнтам У. С. Б., дэлегаваным ад Ураду ТБА, публічная лекцыя—на тэму „Правы і абавязкі грамадзяніна Польскае Рэспублікі“. Назоў тэмы гаворыць сам за сябе, і мы пераканаxны, што гэткая лекцыя дала-б нам шмат карысьці. Дзеля гэтага просім Урад ТБА не абмінаць нашую вёску і пры першай магчымасьці наладзіць у нас публічную лекцыю.

Шчыра дзякуем ТБА за беларускія і польскія (сельска-гаспадарчага зьместу) кніжкі, якімі дапоўнена заложаная б. Цэнтрасаюзам бібліятэка. Кніжкі карыстаюцца пасьпехам. Моладзь чытае вельмі ахвотна, і такім чынам зьмяншаюцца дэмаралізацыйныя ўплывы (як піцьцё гарэлкі і т. д.), якія шмат дзе на вёсцы пануюць. **М.**

**Імкненьне да культурнае працы** (в. Вялікая-Балвань, Грыцэвіцкае гм.) Чулі мы, што ў іншых паветах ТБА закладае бібліятэкі-чытальні. Ня ведаем, чаму толькі наш Нясьвежскі павет трактуецца намацошаму. У нас ёсьць шмат інтэлігенцыі, якая кончыла Клецкую Бел. Гімназію і дзеля недахопу матэр'яльных срэдстваў засталася пад вясковай страхой. Кадра гэтых маладых людзей з ахвотай узялася-б за родную культурна-прасьветную працу, толькі трэба, каб цэнтр Віленскі дапамог і пакіраваў ёю. Ваколіца наша, пазбаўленая абсалютна ўсялякага пісанага беларускага слова (газэта „Родны Край“, ня ведаем з якіх прычын, прыходзіць да нас вельмі нерэгулярна і рэдка), што раз больш глохле. Сэрца проста крывавіцца, гледзячы на гэты абразок. Зьвяртаемся да сяброў ТБА—не забывайце пра нас і памажэце распачаць працу на культурна-прасьветнай ніве. **А.**

# Мой родны край!

Мой родны край! Старонка сумная!  
За што Цябе любіць? — калі-б опытаўся хто,  
Што адказаць, ня ведаў сам бы я!—  
Скуль гэтая любоў? Дзеля чаго? За што?  
Каменьне вострае крывава раніць ногі,  
Дрыжыць ў паветры плач старых бяроз...  
Хаця мне жудасна, ня зыйду я з дарогі,  
Ня кіну край, гдзе я радзіўся, рос...  
Старонка родная! на што Цябе любіці  
І на ахвяру ўсё жыцьцё Табе даваць?...  
Ці-ж не ляпей пад іншым небам жыці?  
Забыць Цябе, пакінуць, родна маць?...  
Там гдзесь сады цьвітуць бязмала праз год цэлы,  
Там неба сіняе, нямашака там хмар,  
Людзкія тамака здароўем дышуць целы  
І абымае дух мастацтва дзіўны чар...  
Там Вінчы, Рафаэль, Анжэльлё, Тыцыян,  
Глядзяць там манумэнты горда ў неба выш.  
У нас—забыты ў полі гдзесь курган  
Ды ля дарогі дрэмле стары падгніўшы крыж...  
Твой, Беларусь, пачаўся Рэнэсанс цяпер!  
Хто ведае, што створыць Твой народ?!...  
Хоць красак тут ня шмат, хоць край, як доля, шэр,—  
Звархнуўшысь раз, дух пойдзе ўсё ўпярод!...  
І хоць з-за аблакоў пахмура сьвеціць сонца,  
І шчасьця-радасьці ня нойдзеш тут нідзе,  
Загляне Доля йшчэ і ў нашае ваконца,  
І кветка папараць яшчэ нам зацьвіце!

**Юры Монвід.**

Менск, лета 1918 году.

## У Латвіі.

**Прадстаўнікі беларусаў на Балтыцкай Вучыцельскай Канфэрэнцыі.** Мінулым летам у Таліне, сталіцы Эстоніі, адбылася канфэрэнцыя вучыцельства Латвіі, Літвы і Эстоніі. На канфэрэнцыі—сярод прадстаўнікоў вучыцельства Латвіі—былі і двое беларускіх дэлегатаў: гр. гр. К. Езавітаў і Г. Нікіфароўская.

**Склад Пэдагогічнае Рады Рыжскае Беларускае Гімназіі.** Зацьверджаны міністрам асьветы на 1933-34 шк. год гэткі склад Пэдагогічнае Рады Беларускае Гімназіі ў Рызе: дырэктар—А. Родзька, вучыцялі — К. Езавітаў, С. Сіцько, Я. Кастылюк, Я. Клагіш, Ю. Брач, Ф. Клагіш, А. Шчорс, К. Мяжэцкі, П. Мірановіч, А. Шліпе, Н. Швангерадзе, Азолійш і В. Доўгая.

# Палітычная хроніка.

**Унутраная пазыка Польскае Дзяржавы.** 7-га кастрычніка будзе адкрыта падпіска на дзяржаўную ўнутраную пазыку, аб якой 5 верасьня Прэзыдэнт Рэспублікі выдаў дэкрэт. Пазыка выпушчана будзе на 120 мільёнаў злот. па 6%. — Пазыковыя аблігацыі, ці вэксалі дзяржаўнага скарбу, выпускаюцца па 50, 100, 500 і 1000 злотых. Але, каб заахвоціць да купляньня гэтых аблігацыяў, яны пры падпісцы прадавацца будуць таньней: па 96 зл. за 100. Пры падпісцы ня трэба плаціць адразу ўсю суму, але можна разлажыць яе на 6 месячных „ратаў". Трымаць грошы ў гэтых аблігацыях выгадна тым, што яны не падлягаюць ніякім падаткам ані „данінам", а таксама—ніякаму „заеньцю" з боку тых ці іншых уладаў. Пазыка бярэцца ў насяленьня дзяржавай на 10 гадоў, але можа быць, зразумела, выкуплена і раней.

Пазыка мае мэтай пакрыцьце бюджэтнага недахопу.

**Мар. Пілсудскі мае ехаць у Маскву?** Некаторыя польскія газэты даведаліся, быццам маскоўскі ўрад мае запрасіць у гасьціну Марш. Пілсудскага, на што быццам апошні ўжо даў сваю згоду.

**Скасаваньне раду катэдраў у вышэйшых школах Польшчы.** Міністар асьветы загадаў — на падставе новага закону аб вышэйшых школах—скасаваньне цэлага раду катэдраў у унівэрсытэтах, політэхніках і інш. дзяржаўных вышэйшых школах Польшчы. У адной толькі Львоўскай політэхніцы скасаваны 12 катэдраў. У польскай прэсе пачаўся рух проці такога „паніжэньня навукі" ў Польшчы, за што некаторыя з газэтаў былі канфіскаваны.

**„Украінскі Грамадзкі Камітэт Ратунку Украіны".** Украінскія часопісы зьмяшчаюць адозву „да Украінскага Народу, дзе б ён ні жыў" —ад імя украінскіх арганізацыяў і ўстановаў, з парляманцкай рэпрэзэнтацыяй на чале. Адозва, яркімі фарбамі малюючы „цярпеньні галодных мукаў і нацыянальнага ўціску Вялікае Украіны" пад бальшавікамі, заклікае украінскі народ усяго сьвету да заложэньня на ўсім прасторы яго рассяленьня „Грамадзкіх Камітэтаў Ратунку Украіны" — па прыкладу створанага ў Львове на ўсю Польшчу, які бліжэйшым чынам будзе весьці акцыю усебаковай дапамогі закардонным галадаючым і ўціснёным братом — паводле дакладна апрацаванага пляну.

**Дэманстрацыя проці маскоўшчыны ў царкве.** У Пачаёўскай Лаўры—у часе бытнасьці там мітрапаліта Дзяніса і некалькіх япіскапаў — адбылася вялізарная дэманстрацыя ўкраінскага праваслаўнага насяленьня проці абмаскоўліваньня народу праз царкву. У дэманстрацыі прымала ўчасьце каля 20.000 душ. Дэманстранты трэбавалі ўкраінізацыі царквы.

---

**Спор у справе кантролю над збраеньнямі.** У Парыжу ў апошнія дні адбылася канфэрэнцыя францускіх міністраў з англійскімі ў справе кантролю над збраеньнямі. Справа ў тым, што Францыю страшэнна непакояць збраеньні Нямеччыны, аб якіх францускі ўрад добра ведае праз сваю разьведку. Зрэшта, гітлераўскія міністры навет не хаваюць сваіх збраеньняў, але наадварот—хваляцца імі. Англія сьпярша вельмі неахвотна згаджалася на гэткі кантроль, дый то— толькі як на часовую меру ў кожным асобным выпадку, калі будзе сьцверджана нарушэньне Вэрсальскага трактату. Але Францыі ў апошні час неяк удалося пераканаць Англію ў небясьпецы ад нямецкіх збраеньняў. А тады, здаецца, далучылася да іх і Амэрыка. Але, як толькі францускі пасол пачаў гутаркі аб кантролю з Гітлерам, той адказаў яму рашучай адмовай, заявіўшы, што „няма цяпер ужо, дзякуй Богу, тэй сілы ў сьвеце, якая-б магла змусіць Нямеччыну да гэткага кантролю"... Іншая справа, калі аднолькаваму з Нямеччынай кантролю маюць паддацца і іншыя, запраўды-ж азброеныя да зубоў дзяржавы. Тады, заявіў Гітлер, і Нямеччына, як роўная з роўнымі, гатова лёяльна прыняць кантроль. Такім чынам —на бліжэйшай сэсіі Лігі Нацыяў справа гэтая можа давесьці да вельмі гарачае сутычкі паміж высокімі сябрамі „пакту 4-х".

**П. Эрыё вярнуўся з СССР дамоў.** Вельмі ўплывовы францускі палітык, адзін з галоўных правадыроў пануючае цяпер у Францыі партыі радыкалаў, б. прэм'ер п. Эрыё, некалькі тыдняў езьдзіў па СССР, горача прыйманы ўрадам і насяленьнем Саюзу, і цяпер вярнуўся дамоў. Падарожа Эрыё мае важнае палітычнае значэньне, падрыхтоўваючы далейшае палітычнае збліжэньне і гаспадарчае супрацоўніцтва Францыі з Саветамі.

Падарожа гэтая страшэнна занепакоіла абедзьвюх канкурэнтак Францыі: Нямеччыну і Італію. Няма сумліву ў тым, што яна прысьпешыла падпісаньне савецка-італьянскага пакту дый выклікала залагоджаньне вострага курсу Гітлера проці Саветаў.

**Савецка-італьянскі пакт аб узаемным ненападаньні.** 2 верасьня падпісаны ўрэшце у Рыме доўга рыхтаваны пакт аб узаемным ненападаньні паміж Саветамі і Італіяй. Пакт, заключаны на 5 гадоў, мае мэтай, як і ўсе падобныя пакты Саветаў, „падтрыманьне агульнага міру" і „прыязных адносінаў" камуністычнае Масквы з фашыстаўскай Італіяй.

**Адстаўка соцыялістычнага ўраду ў Гішпаніі.** Урад Азаны, у якім камандавалі соцыялісты, падаўся ў адстаўку, якая прынята прэзыдэнтам Заморрай.

Адстаўка выклікана не вотумам недаверу з боку парляманту, які мае ўрадавую большасьць, але — глухім нездаваленьнем у шырокіх колах грамадзянства, якое быццам „ня хоча іесьці на тыя рызыкоўныя спробы, якія распачалі соцыялісты". А ўсе гэтыя „рызыкоўныя спробы" зьмяшчаюцца толькі ў

законе аб адабраньні ад абшарнікаў, ад касьцёлаў і манастыроў на карысьць працоўнага хлебароба зямлі бяз выкупу дый скасаваньня клерыкальнага характару школы ў Гішпаніі. Але ў Гішпаніі, як відаць, пачаўся ўжо рашучы паварот ад рэвалюцыі да рэакцыі. Новым прэм'ерам вазначаны былы міп. Леру, які зьяўляецца правадыром партыі радыкалаў, але адначасна рашучым праціўнікам соцыялістаў. Такім чынам новы ўрад мае быць умяркавана-радыкальным — без супрацоўніцтва соцыялістаў.

# Гаспадарчы аддзел.

## Падрыхтоўка грунтаў пад пасеў.

Пры азімых пасевах трэба, каб зямля мела час добра „асесьці", уляжацца. Бо ж жыта выпускае карані зараз пад паверхняй зямлі. Калі яго пасеяць у сьвежа загараную ральлю, дык яно ўкараніцца ў ёй, а як пасьля зямля асядзе, тады карані вылезуць над паверхняй зямлі, „аголяцца", пасохнуць, і, як ударыць мароз, замерзьне ўся расьціна. Увесь пасеў можа прапасьці. На цяжкіх глебах трэба гараць за 4—6 тыдняў перад сяўбой, каб зямля мела час добра асесьці. На лёгкіх пяшчаных глебах даволі 2 тыдні часу на гэтае „асяданьне" зямлі. А таму ня трэба сеяць азіміны пасьля бульбы, бо ня будзе часу на добрую падрыхтоўку зямлі пад пасеў і на асяданьне ральлі. Дажджы, зразумела, шмат прысьпяшаюць гэты працэс асяданьня пасьля гараньня. Ёсьць і спэцыяльныя прылады да гэтага — машыны.

## Байцаваньне насеньня.

Важнай рэчай ёсьць г. зв. байцаваньне насеньня перад пасевам. Мэта гэтай мала практыкаванай у нашай першабытнай сялянскай гаспадарцы апэрацыі — забіць у зярнятах зародкі розных шкадлівых паразітаў, грыбкоў і г. д.

Дзеля гэтага ўжываюць шмат рожных хімічных прэпаратаў. Як падае украінскі часопіс „Сельскі Гаспадар", добрым і найбольш танным з іх ёсьць ведамы, здаецца, усім т. зв. „сіні камень"—медны купарос (папольску — „siarczan miedzi"); добры таксама і формалін, які ўжываецца наагул да дэзынфэкцыі хаты і вопраткі пасьля заразных хваробаў.

Апэрацыя робіцца так:

У 100 літраў вады рашчыняецца ½ кілё „сіняга камня", і ў гэтай рашчыне мочыцца насеньне ў працягу 10—12 гадзін, часта перамешываючы яго. Начыньне, у якім робіцца рашчына, павінна быць з дзерава, бо-ж жалеза, цынк і чыгун гэтая рашчына меднай солі разьядае. Выбранае з начыньня насеньне акрапляецца „вапенным малаком", якое прыгатаўляецца з 3—4 кілаграм. вапны, рашчыненае ў 100 літрах вады. Пасьля ўсяго гэтага насеньне, добра перамешанае і прасушанае, гатова да пасеву, дый сеяць яго трэба неадкладаючы — зараз. Часта робіцца толькі акрапленьне рашчынай „сіняга камня", або „вапенным малаком". Але гэткая апэрацыя не забівае шкодных зародкаў, дык не дасягае мэты.

Яшчэ прасьцей адбываецца байцаваньне формалінам. На 100 літраў вады дадаецца чверць літра формаліну (у кожнай аптэцы ёсьць гэтая жыжка; трэба браць 40 прац.). У гэтай рашчыне можна мачыць насеньне проста ў мяшку мінутаў 15, мяшаючы ў ім зерне. Ачышчанае такім чынам і высушанае насеньне можна высяваць у працягу 2 тыдняў, а нават пазьней. Калі частка яго нават астанецца, дык ня шкодна яго есьці і жывёле і чалавеку.

Зразумела, што перад байцаваньнем трэба збожа добра вымыць і спаласкаць у чыстай вадзе. Зярняты, якія пры гэтым уплываюць на паверхню вады, трэба сабраць рэшатам і выкінуць вон. Таксама трэба добра вымачыць у прыгатаванай рашчыне чыста вымытыя мяшкі, у якіх мае адбывацца байцаваньне. Наагул, усё начыньне, сяўню, скрыню, якія маемо ўжываць дзеля байцаваньня, перахоўваньня і сяўбы насеньня, трымаць у чысьціні, бо й там могуць быць шкодныя зародкі, якія пасьля, знайшоўшы сабе добры грунт на зярнятах, „наклічуць" на збожа тую ці іншую хваробу.

## Калі сеяць?

Вельмі цяжка добра згадаць, калі лепш сеяць: раней, ці пазьней? Залежыць гэта і ад роду зямлі, і ад стану пагоды, і ад якасьці пасеньня. Наагул — чым лепшая восень, чым лепшыя грунт і насеньне, тым пазьней можна сеяць. Мастакі-сяйбіты адчуваюць гэты час, „згадываюць" яго, ведаючы з добрае практыкі ўплывы ўсіх мясцовых варункаў.

Ведаць трэба аднак, што азімае жыта павінна мець час добра ўкараніцца і распусьціцца ўвосені, бо-ж зьвясны яно адразу йдзе ў гару—у сьцібло. Інакш не акрэпне добра на зіму, ня будзе трымаць цяпла (ад рэдкасьці) і памерзьне.

Наадварот—пшаніца кусьціцца ня толькі ўвосені, але й вясной, таму яе можна сеяць пазьней. Але трэба памятаць, што ранейшыя пасевы пшаніцы — пры горшых варунках грунту, пагоды і насеньня — наагул пэўнейшыя. („С. Г.").

**Рыначныя цэны ў Вільні.** 16 IX. Жыта гурт. 1 зл., 90 гр. дэт. 2 зл. 10 гр. Ячмень гурт. 2 зл., 20 гр. дэт. 2 зл. 50 гр. Авёс гурт. 2 зл. дэт. 2 зл. 20 гр. Пшаніца гурт. 3 зл., 50 гр. дэт. 3 зл. 80 гр. Бульба стар. кілягр. 0,07 гр., дэт. 0,10 гр. Саланіна 1 зл. 80 гр. — 2 зл. Шмалец 2 зл. — 2 зл. 40 гр. Масла прас. 2 зл. 90 гр. — 3 зл. 20 гр., масла гаспадар. 2 зл. 40 гр.—2 зл 80 гр. Яйкі 60-70—70-80 гр. Даляр 6 зл. 20 гр.

# Цікаўныя і карысныя рэчы.

## На сьвеце ёсьць яшчэ 6 мільёнаў нявольнікаў.

Жонка міністра замежных спраў Англіі, леді Саймон, сабрала ў толькі-што выданай кніжцы вельмі цікаўны матэрыял аб сучасным стане нявольніцтва на сьвеце. Ня гледзячы на формальнае „скасаваньне нявольніцтва" ўсімі цывілізаванымі дзяржавамі сьвету, фактычна нявольніцтва існуе ўсьцяж дый у вельмі паважных лічбах. Леді Саймон аблічае колькасьць нявольнікаў на сьвеце на 6 мільёнаў. У адной „хрысьціянскай" Абісініі існуе дагэтуль да 2-х мільёнаў рабоў, якія купляюцца і прадаюцца, як жывёла. Характэрна, што спэцыяльная камісія Лігі Нацыяў рабіла ў свой час досьледы ў Абісініі ў гэтай справе. Камісія сабрала проста жудасны матэрыял, але даклад яе ляжыць спакойна не апублікаваны ў канцэлярыях Лігі — ад 1922 г. У Арабіі існуе звыш 700.000 рабоў, якія прадаюцца на спэцыяльных рынках. У Паўдзённай Амэрыцы да нядаўнага часу нявольніцтва існавала спакойна, дый толькі ў 1928 г. зьвольнены з рабства, прынамся афіцыяльна, 214.000 рабоў. У Афрыцы шмат дзе, у дробных дый ня толькі „чорных" каралеўствах, але навет дзе-ндзе ў колёніях вяліхіх дзяржаваў—працьвітае нявольніцтва ў самай яўнай форме. Бацькі адкрыта прадаюць там сваіх дзяцей. Нават дарослую дзяўчыну ці хлапца можна купіць там „на ўласнасьць" за 35 даляраў. Ня кажам ужо тутака аб „нявольніцтве соцыяльна-эканамічным", якое пануе на ўсім сьвеце...

## Новы труцячы газ.

Францускія газэты даведаліся, што на адной з фабрык нямецкае ваенна-хімічнае прамысловасьці (у Оппаў) атрыманы новы, страшэннае труцячае сілы газ. Газ гэты праходзіць наскрозь праз усялякія процігазавыя маскі, і ніякія сродкі ня могуць процідзеяць яго сіле. Як відаць, працуе „геній чалавецтва" усьця-ж над зьніштажаньнем чалавечага роду!

## Сьцеражэцеся жабаў і рапухаў.

Досьледы паказалі, што ведамыя ўсім жабы і рапухі, бясспрэчна карысныя для нашых гародаў, могуць часам пагражаць чалавеку, ня кажучы аб іншых жывёлах, сваім ядам. Скура рапухі пакрыта шматлікімі жалёзкамі, якія выдзяляюць клейкую жыжку з вельмі небясьпечным ядам. Гэты яд, папаўшы у кроў, можа адразу выклікаць параліж усяе нэрвовае сыстэмы, а калі попадзе на скуру, выклікае пухліну і запаленьне. Гэты яд названы фрынін. Ен і надае рапухам іх асаблівы пах. Нават у звычайных жабаў скура выдзяляе нейкі кляісты сок, які адразу забівае вераб'я, а навет труса, калі яго ўпырснуць у кроў гэтых жывёлін, а папаўшы ў чалавечае вока выклікае ў ім цяжкае запаленьне. Такім ядам звычайна наагул бароніцда такая голая дый мяккая жывёліна ад ворагаў, ня маючы ніякага іншага ваеннага азбраеньня.

Усё гэта трэба ведаць, каб не дазваляць дзецям браць у рукі жабаў. а асабліва рапухаў, забіваць якіх усё-ж ня можна, бо яны, як сказана, ня горш, як птушкі, бароняць ад усялякае машкары нашыя гароды.

## Колькі солі ў морах?

Моры й акеаны займаюць 9 мільён. 260 тыс. квадр. міляў, ці 73 працэнты ўсяе паверхні зямлі. Лічачы сярэднюю глыбіню мора на паўмілі, знойдзем, што ўсяго марское вады на зямлі ёсьць 3 мільёны 400 тыс. кубічных міляў. Лічачы на кубічны мэтр вады па 25 кілегр. солі, знойдзем, што 3.400.000 куб. міль маюць у рашчыне 85.000 куб. міль чыстае крысталічнае солі. Калі-б усю гэтую масу солі сабраць у адзін «кавалак», дык ён перавысіў бы сваёй велічынёй усю сушу на зямлі з усімі яе гарамі, што выстаюць над роўнем мора.

# Паштовая скрынка.

Гр. Гарас. Праменю—пошта Беліца. Вы пішаце, што ў „Б. Крыніцы" (№ 28) надрукавана была нейкая корэспандэнцыя, у якой зьмешчана была хлусьня на ТБА, падпісаная „вашым псэўдонімам" Прамень, дый пытаецеся, ці маюць права іншыя карэспандэнты падпісывацца „вашым" псэўдонімам. Бо-ж вы—ня толькі з гэтым „адважным лгаром" ня маеце нічога супольнага, але жывецё ў іншай вёсцы навет не таго павету...

Адказываем: на ўсякую брахню ды хлусьню адгукацца — ня хопіць часу для тых, хто працуе. Што да „права на псэўдонім", дык няпісаны кодэкс агульна прынятых звычаяў прызваітае прэсы наагул забараняе карыстацца чужым псэўдонімам, які часта зьяўляецца як-быццам другім імем пісьменьніка, прынятым ім пры яго, так сказаць, „літэратурных хрэсьбінах". Але „права" яго, як няпісанае, абавязывае толькі людзей дый органы прэсы, каторыя стаяць на ведамым культурным ды маральным роўні. Датаго-ж трэба яшчэ даказаць у кожным даным выпадку злую волю, але не прыпадак. З прысланых вершаў ніводзін без грунтоўнае папраўкі да друку не надаецца. Вучыцеся ўсьцяж на лепшых узорах нашае поэзіі. Шмат у вас полёнізмаў.

Рэдактар нашага „Літэратурнага Кутка" ўсё яшчэ сядзіць на вёсцы. Думаем, што ўжо хутка прыедзе ў Вільню, і тады ўзновім „Куток".

**Пашырайце нашу газэту!**

Рэдактар: М. СІНЯУСКІ.—Выдавец: ТБА. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22